Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

26 ЧЭРВЕНЯ - 2 ЛІПЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№26 (166)

## АДНА ЗЯМЛЯ

ВІЛЕЙКА

### Любані яднаюцца

Вілейшчына вядомая на толькі сваёй харчовай і прамысловай вытворчасцю, а і песнямі, танцамі. Нядаўна ёй прапанавалі ўзяць удзел у свяце мястэчак з аднолькавай назвай – Любань, які праводзіўся ў горадзе Любані.

На свята прыехалі ўдзельнікі з Лунінецкага, Акцябрскага, Вілейскага і Мінскага раёнаў. У выступленні кожнага мястэчка–цёзкі было нешта адметнае, асаблівае. Кожная Любань прадстаўляла свае таленты. Вілейчане заваявалі сімпатыі не толькі выступленнем Дома культуры, але і гасцінцамі (прывезлі гледачам тры скрынкі віна «Міраж» і шампанскага).

*Вольга ПАСЛЕД.*

СМАРГОНЬ

### Вернікі будуць мець храм

У праваслаўных вернікаў горада існуе праблема – царква не ў стане ўмясціць усіх жадаючых. Падчас набажэнстваў многія людзі вымушаныя знаходзіцца на вуліцы.

Хутка справа палепшыцца. Нядаўна выканком зарэгістраваў статут праваслаўнай рэлігійнай абшчыны царквы Святых Віленскіх Пакутнікаў Анатоля, Іаана і Яўстафіі. Наперадзе ў іх будаўніцтва царквы ў Заходнім гарадку.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

### Спадабалася Наздраценку Вілейка

У мінулыя выхадныя сталіцу вытворчасці айчынных фотаапаратаў у рамках візіту ў Беларусь наведаў губернатар Прыморскага краю Расіі **Яўген Наздраценка**, які пазнаёміўся з вытворчай і сацыяльна-культурнай сферай раённага цэнтра. Горад госцю спадабаўся.

*Аддзел інфармацыі.*

АШМЯНЫ

### Старасты дзейнічаюць

Вёскі амаль усіх сельскіх Саветаў маюць старастаў. У абавязкі іх уваходзіць інфармаванне аднавяскоўцаў аб рашэннях, што прымаюцца мясцовай уладай. Праз іх наладжана і зваротная сувязь – аб праблемах яны распавядаюць прадстаўнікам Ашмянскай "вертыкалі".

На базе Навасёлкаўскага сельсавета быў праведзены раённы семінар старастаў. На ім абмяркоўваліся меры па паляпшэнні дзейнасці, актыўнасці старастаў. Магчыма, будуць паляпшэнні ў рабоце.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МЯДЗЕЛ

### Кадры для нацыянальнага парку

***МЯДЗЕЛ.** Нешта падобнае можна сказаць пра выпускнікоў Свірскага ПТВ–207, якое ў наступным годзе адзначыць свой 60–гадовы юбілей.*



У старэйшым вучылішчы краіны "куюць" сапраўды высокакваліфікаваных, усебакова падрыхтаваных спецыялістаў. Юнакі, у залежнасці ад тэрміну навучання, могуць набыць адразу некалькі спецыяльнасцяў: трактарыста–машыніста ажно чатырох катэгорый, вадзіцеля аўтамабіля, электраманцёра, аператара жывёлагадоўчых комплексаў. Не перашкодзяць у жыцці таксама ўмельства электрагазазваршчыка і слесара–рамонтніка. Сапраўднай гаспадыняй сядзібы пакажа сябе пасля заканчэння вучылішча дзяўчына – яна і швачка, і повар, і майстар–агароднік, і аператар машыннага даення 4–5 разрадаў. А з мінулага года пачалі рыхтаваць у Камарове (вучылішча хаця і называецца Свірскім, месціцца ў гэтай вёсцы) майстроў лесу. Будучыя леснікі ды егеры спатрэбяцца не толькі ў суседніх раёнах, але і на самой Мядзельшчыне – тут у хуткім часе плануецца стварыць нацыянальны парк.

Вучылішча становіцца "цёплым домам" для ўсіх, хто выбірае яго з мноства падобных навучальных устаноў: тут і бясплатнае пражыванне, і харчаванне, і добрыя ўмовы бавіць вольны ад вучобы і практычных заняткаў час. І вельмі адказны калектыў выкладчыкаў і майстроў, які ўзначальвае дырэктар **Эдуард Вайцяховіч**. У многім дзякуючы яму, вучылішча заключыла дамовы з Беларускім аграрным тэхнічным універсітэтам і Горкаўскай сельгасакадэміяй. І цяпер навучэнцы атрымалі магчымасць пры паспяховай здачы выпускных экзаменаў паступіць адразу на другі курс згаданых ВНУ.

*Віталь ПАШУК.*

*Тэорыя без практыкі мёртвая: будучыя гаспадыні сядзіб з задавальненнем працуюць на ўгоддзях вучылішча.*

ФОТА МАРЫІ КРАСОЎСКАЙ.

ФЕСТЫВАЛІМ

## Паставілі на Аляксандра Зваровіча. І ледзь не выйгралі скрыню шампанскага



*Вікторыя Алешка.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

***МАЛАДЗЕЧНА.** У дзень адкрыцця фестывалю ў горад прыйшла тэлефанаграма – на Віцебшчыне, Гомельшчыне амаль суткі не спыняюцца моцныя дажджы з ветрам. Стыхія паварочвае на Мінск. Таму выступленні артыстаў пад рэдкі дожджык можна лічыць падарункам прыроды.*

Горад прыбраўся. За некалькі гадзін да пачатку свята яшчэ аднолькава фарбаваліся кіёскі, з зялёнай зоны Цэнтральнай плошчы вывозілася скошаная трава, рамантаваўся ўваход у рэстаран "Стары замак".

Не абышлося без кур'ёзаў. Вядомы мясцовы афарміцель, як гаворыцца, падставіў. З ягоных транспарантаў, што працягнуліся праз цэнтральныя вуліцы, знік надпіс "Мой горад – мой гонар". Ад ветру і дажджу літары адклеіліся. А тыя, што захаваліся, былі падобныя на кітайскія іерогліфы.

Стрыжань фестывалю – конкурс маладых выканаўцаў. Наш рэгіён прадстаўляў маладзечанец **Дзмітрый Мінько**, навучэнец музвучылішча. Мы шчыра жадалі яму поспехаў. Але падабаўся нам **Аляксандр Зваровіч** з Гродна, і мы пайшлі ў заклад з калегамі сталічных выданняў, што ён пераможа. На першую прыступку ўзнялася юная мінчанка **Вікторыя Алешка**. Разам з «гран-пры» ў сталіцу яна павезла тэлевізар «Гарызонт».

На сцэне хваляваліся ўсе – галоўная вядучая праграм фестывалю, народная артыстка Беларусі **Зінаіда Бандарэнка** забылася радок з верша, праўда, хутка знайшла выйсце, проста прапусціўшы яго. Той жа Аляксандр Зваровіч, спускаючыся да мікрафона, паваліўся. Юныя канкурсанткі раз–пораз прыдавалі патрэбную форму дэкальтэ ў сваіх сукенках.

Узровень маладых выканаўцаў узрос. Аб гэтым "РГ" сказаў і мастацкі кіраўнік дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі **Міхаіл Фінберг**. Дарэчы, іх выступленні сёлета праходзілі толькі "жыўцом". Наогул, "жывы гук" – лейтматыў усяго фестывалю.

Няхай выбачае міністр культуры краіны **Аляксандр Сасноўскі**, што не далі яму ўволю паразмаўляць з салісткай дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі **Стэлай**. Былая маладзечанка (гераіня ранейшых публікацый "РГ") цяпер жыве і працуе ў Мінску. Часцяком наведвае і Маскву. Рыхтуецца запіс перадачы "Брэйн–рынг" з яе ўдзелам. Творчым лёсам спявачкі зацікавіўся **Іосіф Кабзон**. Стэла супрацоўнічае з мінскімі паэтамі **Аленай Туравай, Віктарам Кавальчуком**. Спрабуе сама пісаць музыку. На свой дзень нараджэння ў кастрычніку плануе даць сольны канцэрт у Маладзечне. Мы абяцалі Стэле інфармацыйную падтрымку.

*Заканчэнне на 2-й стар.*

УСТУПНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ

### Прыёмныя камісіі -- пад кантроль

**МІНСК.** Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка падпісаў указ аб стварэнні дзяржаўнай камісіі для кантролю за работай прыёмных камісій і правядзеннем ўступных экзаменаў у дзяржаўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

Правядзенне ўступных экзаменаў у ВНУ пачнецца ў ліпені з пісьмовых кантрольных работ па беларускай (рускай) мове, тэмы якіх будуць аб'яўлены па тэлебачанні і радыё.

*БелаПАН.*

ВАШЫНГТОН

### Візы ў ЗША

Адкліканне пасла **Дэніэла Спекхарда** і інфармаванне аб немэтазгоднасці вяртання ў Вашынгтон пасла Беларусі (да спецыяльнага паведамлення) не азначаюць разрыву дыпламатычных адносінаў Злучаных Штатаў і Беларусі. Аб гэтым заявіў прэс–сакратар Дзярждэпартамента ЗША **Джэймс Рубін**.

Пасольства гэтай краіны застаецца адкрытым і "будзе працягваць прадастаўленне ўсіх паслуг, уключаючы консульскае абслугоўванне грамадзянаў ЗША. Выдача неіміграцыйных віз для грамадзянаў Беларусі таксама будзе працягвацца".

*Аддзел інфармацыі.*



ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА




*Насця Чарняўская, к. п. Нарач, ідзе шосты год. Малюе добра, умее чытаць, лічыць. Захапляецца мульцікамі. Любіць марожанае, летам купацца ў Нарачы. Гарэза. Ахвотна ідзе раніцой у садок. Сабраныя кветкі дорыць бацькам, бабулі, дзядулі. Лепшы для яе падарунак – лялька.*

ФОТА МІХАІЛА ЧАРНЯЎСКАГА.

СТАРЫ АЛЬБОМ



Пра Нарач складзена шмат легендаў, паданняў, напісана нямала паэм, песняў, намалявана карцін, зроблена фота–відэаздымкаў, выдадзена альбомаў, буклетаў. І сярод гэтага багацця асабліва выдзяляецца кніга фатографа–мастака **Яна Булгака** "Нарач – найвялікшае возера ў Польшчы", выдадзеная ў 1935 годзе ў Вільні. У ёй 38 ілюстрацый, зробленых самім аўтарам. Скажу шчыра, што Ян Булгак быў па–сапраўдным улюбёны ў Нарач, тут пакінуў часцінку свайго сэрца.

Кніга праз шмат год рэдка ў каго захавалася: былі войны, акупацыя і іншыя падзеі. І ўсё ж такую кнігу мне давялося сустрэць у актыўнага ўдзельніка выступлення нарачанскіх рыбакоў пры даваеннай Польшчы **Ільі Пятровіча Зарэцкага** з в. Чараўкі і зрабіць фотарэпрадукцыі некаторых здымкаў (гаспадар кнігі перадаў яе ў раённы музей Народнай славы ў Мядзеле).

Сваё падарожжа з Вільні на Нарач Ян Булгак зрабіў вузкакалейкай (пабудаванай немцамі ў І Сусветную вайну), якая ў 30–я гады выкарыстоўвалася (разабраная каляя аж да Свянцян (Швянчоніса) ў 60–я гады, калі быў з Лынтуп перавезены будаўнічы матэрыял для першага санаторыя "Нарач").

Ян Булгак з замілаваннем перадае сваё ўражанне ад возера. Адчуваецца, што чалавек цікавіўся гісторыяй, любіў прыроду, умеў гутарыць з людзьмі, занатоўваў нават драбніцы, унікаў у паходжанне назваў. Шмат месца адведзена вёсцы Купа (цяпер к. п. Нарач), воднаму спорту.

Расказаў аўтар, як за паўгода на голым месцы ў 1933 годзе быў узведзены драўляны будынак школьнага летніка (восенню, зімой і вясной там размяшчалася пачатковая школа, а ў летнія месяцы прыязджалі на адпачынак дзеці з гарадоў). У вайну будынак згарэў.

У той час у летніку была пластычная карта з суседнімі азёрамі Мястра, Бледнае, Баторына і Мядзел, а таксама геалагічная і прыродная карты. Сёння толькі ў лічаных школах можна сустрэць такое адлюстраванне сваёй мясцовасці. Ці ж прыведзены прыклад не варты пераймання настаўнікамі геаграфіі, гісторыі, прыроды?

Аўтар не абмінуў увагай падзеі І Сусветнай вайны (зрабіў здымак яе слядоў – агароджы з калючага дроту). Паведаміў, як праводзіцца зарыбленне вадаёма, прыводзіць звесткі пра саму Нарач.

А здымкі? Яны непаўторнай прыгажосці, зробленыя на ўзроўні сучасных магчымасцяў (хоць было да 1935 года). На іх красуецца Нарач, вёскі Купа, Наносы, Гатавічы. Са здымкаў даведваемся, што ў той далёкі час быў вельмі развіты водны спорт – вяслярскі, парусны, буерны. Добра было б, каб кнігу Яна Булгака пераклалі на беларускую мову і выдалі неабходным тыражом. Яе змест зацікавіў бы многіх тых, хто неабыякавы да мінуўшчыны, да роднага краю.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

ПРЫВАТНАЯ ДАЧА ЛЯ ГАТАВІЧ. ІЛЮСТРАЦЫЯ З КНІГІ.

# Лепш працаваць ці сядзець ля тэлевізара?

***Летнік "Купалавец", што працаваў у СШ №1, сабраў вучняў 8, 10 класаў. Сёлета іх было 110. Расказвае намеснік дырэктара па вучэбна–выхаваўчай частцы Святлана Шыдлоўская:***

– Летнік у нас працуе штогод. Калі ў мінулыя гады мы амаль што сілай прымушалі дзяцей ісці да нас, то сёлета яны ідуць самі, ды яшчэ з вялікай ахвотай.

***– Чым займаюцца падлеткі ў летніку, як бавяць час?***

– Усё пачынаецца ў 8–45 з лінейкі. Потым мы будуем планы на дзень, размяркоўваем паміж вучнямі аб'екты, падводзім вынікі мінулага дня. У дзевяць гадзін – сняданак. Пасля падлеткі ідуць на працу. Ёй можа быць рамонт школы, зборка веласіпедзікаў на заводзе металавырабаў, дапамога лясніцтву ў пасадцы маладога лесу, зборцы лекавых раслін. Яшчэ мы дапамагалі "Камунальніку" у добраўпарадкаванні тэрыторыі перад фестывалем. Пасля працы пачынаецца абед, а затым – адпачынак: кіно, дыскатэкі, спартыўныя гульні, басейн, турзлёты.

***– Дзе звычайна адбываюцца турзлёты?***

– У гэтым годзе плануем правесці яго на Ушы. Турзлёт – наша традыцыйнае мерапрыемства, якое бывае 2 разы на год – летам і восенню. Наогул, я лічу, што хрышчэнне ЛПА адбываецца менавіта на прыродзе, а турзлёт гэтаму толькі дапамога.

***– Дзеці ядуць у школьнай сталовай? Чым іх кормяць?***

– Дзеці ядуць у школьнай сталовай. І кормяць у нас вельмі добра – штодзённа даюць суп, салату, кілбасу, бывае, прывозяць нават фрукты: бананы, апельсіны. Яшчэ мы самі выпякаем булачкі.

***– Як вы думаеце, што прыцягвае падлеткаў?***

– Не ведаю, лепш спытаць пра гэта ў саміх дзяцей, але мне здаецца, што зносіны. Лепш правесці час за працай у добрым калектыве, чым сядзець цэлы дзень у кватэры, не адыходзячы ад тэлевізара.

*Таня МІР, СШ №9, Маладзечна.*

СМАРГОНЬ

# Ксяндзоў праверылі - заўваг няма

На тэрыторыі горада і раёна дзейнічаюць 9 касцёлаў, дзе праводзяць набажэнствы 6 ксяндзоў. Па рашэнні Гродзенскага абласнога камітэта па справах рэлігіі іх правяралі на дазвол дзейнасці.

Праўда, не ўсіх, а толькі замежных. Аказалася, што ў польскіх ксяндзоў – **Генрыха Куляшэвіча, Яна Немца і Тадэвуша Мараўскага** – усё ў парадку, заўваг не было.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Саўгасны фотаапарат

Калектыў раённай газеты "Светлы шлях" атрымаў ад дырэктара саўгаса "Рассвет" **Станіслава Юргеля** ў падарунак фотаапарат.

Справа ў тым, што супрацоўнік газеты прыехаў у гаспадарку рабіць здымкі, але падвёў фотаапарат. Таму, каб падобнае не здаралася, дырэктар і выручыў.

*Тэрэса КУМІШЧА.*

ФЕСТЫВАЛІМ

# ...І ледзь не выйгралі



*Пачатак на 1-й стар.*

І яшчэ дзве гераіні нашых публікацый з'явіліся на цэнтральнай пляцоўцы. "Міс Маладзечна" **Іна Каханоўская** ў нацыянальным касцюме ўручала кветкі маладым выканаўцам. А 9–гадовая **Насця Жук** выступала як пераможца І фестывалю Беларускай дзіцячай эстраднай песні.

*Васіль САВІЦКІ.*



*Не пакідала натхненне музыкантаў. Можа, і таму ў гуморы М. Фінберг і А. Ярмоленка. Не заставаліся абыякавымі да артыстаў і гледачы.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.



ЁСЦЬ ЖА ЛЮДЗІ!

## Анатоль Сілівончык доўга не думаў, ды

# Купіў землякам аўтобус

***Рэпартажы са Светлагорска чытачы ўспрынялі з цікавасцю: "РГ" раней за рэспубліканскія выданні паведаміла пра нараджэнне эпідэміі СНІДу ў гэтым горадзе.***

**СВЕТЛАГОРСК.** Вёска Гамза размясцілася сярод лесу і ўдалечыні ад магістральных шляхоў. У вёску ў апошнія гады нават маршрутны аўтобус адмянілі. І з'ездзіць мясцовым ці то ў бальніцу, ці то яшчэ па якіх патрэбах у райцэнтр альбо ў Парычы стала даволі праблематычна.

Хутчэй за ўсё, у такой сітуацыі жыхары Гамзы былі б і сёння, каб не іх зямляк – **Анатоль Сілівончык.** Жыве і працуе ён у Сургуце, з'яўляецца генеральным дырэктарам закрытага акцыянернага таварыства "Сібдарсервіс". На працягу некалькіх гадоў утрымлівае пераправу на рацэ Об, выконвае функцыі федэральнага перавозчыка на буйнейшай воднай артэрыі Расіі. Прыехаўшы ў госці да сваёй матулі і ў чарговы раз убачыўшы, як пакутуюць з транспартам састарэлыя людзі, яго землякі, Анатоль Паўлавіч цвёрда вырашыў дапамагчы ім.

Ён выдзеліў 10000 долараў, на якія і быў куплены мікрааўтобус "Mersedes".

– Ой, ведаеце, я тады так разгубілася, – гаворыць **маці Анастасія Несцераўна**. – Кажу яму: што гэта ты выдумаў, навошта той аўтобус. А ён і слухаць не стаў, сказаў, што больш пешшу ні я, ні астатнія вяскоўцы хадзіць не будуць. Так яно і сталася. І як добра, што б мы, старыя, рабілі без гэтага аўтобуса! Зусім нядаўна дзве жанчыны зламалі рукі, дык наш шафёр іх кожненькі дзянёчак вазіў у бальніцу. Куды людзям трэба, туды ён і едзе.

Аўтобус курсіруе па графіку – у Парычы, і ў Светлагорск, і ў Бабруйск. Любыя заяўкі на паездкі па справах тут жа выконваюцца.

Так, сёння гэта ўжо рэальнасць. Мікрааўтобус на працягу 8 месяцаў рэгулярна курсіруе ў Гамзу і абсалютна бясплатна выконвае ўсе заяўкі сяльчан.

Анатоль Сілівончык спадзяецца, што яго прыкладу паследуюць і іншыя бізнесмены, якія дасягнулі пэўнага матэрыяльнага ўзроўню. І ўжо ёсць паслядоўнік. Гэта **Васіль Рыбіцкі** – выхадзец з вёскі Данілоўка Светлагорскага раёна, які цяпер таксама пражывае ў Сургуце. Ён звярнуўся да Анатоля Паўлавіча з прапановай, каб гэты мікрааўтобус абслугоўваў і яго аднавяскоўцаў. Расходы за гэта ён бярэ на сябе, і цяпер "Mersedes" раз у тыдзень – да паслуг данілоўцаў. А сам Анатоль Сілівончык таксама не збіраецца на гэтым спыняцца:

– Цяпер мы падарылі аўтобус "Газель" Спаса–Ефрасінеўскай царкве ў Полацку. Што датычыць Гамзы, то ў бліжэйшы час мы заменім гэты мікрааўтобус на супераўтобус, дзе кожнаму пенсіянеру будзе па кандыцыянеры, – гаворыць Анатоль Паўлавіч. – Думаю, што на працягу года гэтае пытанне вырашым і, хутчэй за ўсё, новы аўтобус будзе абслугоўваць жыхароў усяго Мікалаеўскага сельскага савета. Яшчэ ў нашых планах – арганізаваць тут перапрацоўку грыбоў, ягад, а таксама сельскагаспадарчай прадукцыі.

*Уладзімір КОХНА, спецыяльна для «РГ», Светлагорск.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-25.*

## Паляванне на аленяў

Звычайная амерыканская сям'я жыве ў звычайным драўляным доме (прыкладна такім, як нам паказваюць у «Санта-Барбары»). 2-3 акры зямлі, зрэдку - 1. На ўчастку, натуральна, бульба з агуркамі не растуць - палянка з соснамі ці газон. Мясцовыя не здзіўляюцца, калі раптам пад акном спакойна шпацыруюць вавёрка ці янот, а то і некалькі аленяў.

У Дэ Мойне, дарэчы, паляўнічым страляць забаронена. Алені гэта хутка зразумелі і ледзьве не стадамі наведваюцца сюды. Беспакарана выядаюць птушыныя кармушкі.

Амаль абавязковыя атрыбуты ля дамоў - амерыканскі сцяг на флагштоку і баскетбольны шчыт. Многія будынкі стаяць у вялізным парку, у лесе (там як у нас сцяжынкі, так у іх асфальтавыя дарогі). Побач з такім лясным домам, дзе тыдзень давялося жыць, стаяла машына (з месяц, як патлумачыў яе гаспадар). Сын абяцаў дапамагчы з дробным рамонтам. Нават у лесе, у адрозненне ад нас, яна нікому не была патрэбная. Талеркі спадарожнікавыя панатыканыя адразу ля дамоў – ніхто іх не прымацоўвае ў недасягальнае месца.

Прыехалі ў Джонстан (адзін з прыгарадаў Дэ Мойна), дзе дамы стаяць якраз у лесе. Дзверы двухпавярховага дома, аказваецца, не заўсёды на ключ зачыняюцца, «вароты» гаража (падымаюцца-апускаюцца) - тонкая фанерка.

Цяжка нам іх зразумець. Нават пры тым, што ў некаторых месцах Беларусі такая з'ява некалі таксама месца мела.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



ФОТА АЎТАРА І РАМУАЛЬДА УЛАНА.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 17.06 | 24.06 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 90 | **90** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | адсутн. | **370** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 96 | **96** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 32,5 | **32** |
| Цукар | 1 кг | 27,9 | **28,9** |
| Грэчка | 1 кг | 28,5 | **30** |
| Алей | 1 л | 70 | **65** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 25 | **26,4** |
| Маянэз | 250 г | 21 | **20** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 72 | **73** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 26 | **25** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 29 | **25** |
| Лімоны | 1кг | 60 | **68,5** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **30** |
| Масла | 1 кг | 80 | **адсутн.** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **30** |
| Малако | 1 л | 10 | **8** |
| Бульба | вядро | 40 | **90** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **35** |

### Камароўка 20.06.98

Вінаград 1 кг .......... 250000
Персікі 1 кг .......... 160000
Чарэшня 1 кг .......... 160000
Дыня 1 кг .......... 120000
Вішня 1 кг .......... 120000
Кавун 1 кг .......... 100000
Мандарыны 1 кг ...... 85000
Лімоны 1 кг .......... 60000
Бананы 1 кг .......... 60000
Апельсіны 1 кг ........ 36000
Ананас 1 шт. .......... 140000
Гранат 1 шт. .......... 50000
Ківі 1 шт. .......... 17000

**Ігар КІЦІКАЎ.**

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

## Смаргонцаў стане меней?

***Летась на Смаргоншчыне колькасць памерлых на 340 чалавек, або на 67%, перавысіла колькасць нарадзіўшыхся.***

Падае ў горадзе нараджальнасць, летась яна ў параўнанні з 1996 годам зменшылася на 58 дзяцей. Тут пакуль захоўваецца натуральны прырост, але ў сельскай мясцовасці смяротнасць у 2,8 раза перавышае нараджальнасць.

Калі колькасць шлюбаў у гарадской і сельскай мясцовасці застаецца на ўзроўні 1996 года, то колькасць разводаў у горадзе вырасла на 18%, а ў сельскай мясцовасці – на 49%.

**Павел МАКЛЮК.**

## Пенсіянераў чакаюць перамены

На пасяджэнні 4-й сесіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі парламентарыі адобрылі законапраект аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб пенсійным забеспячэнні і Закон аб увядзенні ў дзеянне Закона аб пенсійным забеспячэнні.

Старшыня парламенцкай камісіі па сацыяльных пытаннях **Інеса Драбышэўская** выдзеліла наступныя прычыны, па якіх спатрэбілася яго вынясенне на разгляд парламентарыяў. Па-першае, яна адзначыла недастатковы ўзровень пенсійнага забеспячэння: нягледзячы на тое, што выдаткі на выплаты пенсій 2,5 млн. пенсіянераў у красавіку гэтага года склалі 3,9 трлн. рублёў, у 90 працэнтаў атрымальнікаў пенсій велічыня дапамогі не дасягнула ўзроўню мінімальнага спажывецкага бюджэту (2 млн. 600 тыс. рублёў -- па стане на канец красавіка).

Па-другое, па словах І. Драбышэўскай, для выплаты нават такіх пенсій прыходзіцца збіраць з прадпрыемстваў страхавыя ўзносы ў памерах 35 працэнтаў фонду аплаты працы. Акрамя гэтага, узмацняецца тэндэнцыя ўхілення ад уплаты страхавых узносаў з боку прадпрымальнікаў і прадпрыемстваў недзяржаўных формаў уласнасці. На думку І. Драбышэўскай, неабходна рэалізаваць канцэпцыю рэформы сістэмы пенсійнага забеспячэння, якая "увязвае" узровень працоўных пенсій з аб'ёмам удзелу кожнага канкрэтнага застрахаванага ў фінансаванні страхавой сістэмы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

АГАРОДЗІК

# Жыхары Каларада супраць «Каратэ»

***Каларадскія жукі сёлета асабліва не атакуюць. На нашых 10 сотках бульбы насякомыя размясціліся групкамі. У рэшце рэшт, толькі 6 сотак засталіся не з`едзеныя.***



Бульбаводчы досвед сведчыць, што жукоў лепш за ўсё труціць. Збіраць, збіваць ці ўтоптваць іх у зямлю, па-першае, неэфектыўна, а, па-другое, непрыемна.

Спецыялізаваныя крамы прапануюць сродкі «Дэціс», «Фас», «Інта-вір» і інш. Нам прапанавалі прымяніць «Каратэ», якое давялося пашукаць. Застаецца спадзявацца на перасяленне захопнікаў на ўчастак суседа.

**Вольга ПАСЛЕД.**



ВЕРСІІ

## Будынкі для нумізматаў

***Чатыры гады таму з бацькам і некалькімі яго сябрамі разбіраў стары дом з безыменнага хутара на Смаргоншчыне.***

Мы знімалі адзін за адным вянцы зруба. Калі засталося зняць апошнія два, адзін з сяброў бацькі паклікаў мяне на дапамогу. Удвух мы ламамі скінулі перадапошні. Сярод моху, пакладзенага для ўцяплення, цьмяна блішчала манета. Я забраў яе дадому, пачысціў, а потым зазірнуў у нумізматычны каталог. Знаходка аказалася пяццю сярэбранымі злотымі, выпушчанымі ў 1936 годзе ў Польшчы. На аверсе была выява прэм'ер–міністра Юзэфа Пілсудскага, на рэверсе – герб Польшчы і надпіс RZECZ POSPOLITA POLSKA.

Той чалавек расказаў, што колькі год таму дапамагаў разбіраць дом, у якім раней жыў поп. Тады рабочыя знайшлі царскую залатую дзесятку і дзве сярэбраныя манеты (але якія, ён ужо не памятаў). Ён жа распавёў мне, што даўней у Заходняй Беларусі існаваў звычай: пры будаўніцтве хаты пад так званы "чырвоны кут" – найбольш шаноўнае месца ў хаце, дзе размяшчаліся абразы, – класці адну ці некалькі манет, каб адвесці бяду і прыманіць шчасце.

І цяпер у нашых вёсках і гарадах засталося яшчэ шмат дамоў, пабудаваных у тыя часы, калі існаваў згаданы звычай. Такім чынам, сотні манет чакаюць свайго другога нумізматычнага жыцця.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

ТЭЛЕФОН МІЛІЦЫІ «02»

## Паведаміце

**17 чэрвеня у Вілейскім вадасховішчы паміж вёскамі Рабунь і Сосенка, не даязджаючы 2 км да Сосенкі, за тры метры ад берагу знойдзены труп невядомай жанчыны.**

**ПРЫКМЕТЫ.** На выгляд каля 30 год, рост прыкладна 170 см, сярэдняга целаскладу, валасы русыя, прамыя, сярэдняй даўжыні, на руцэ гадзіннік «Электроніка», корпус квадратны з жоўтага металу, раменьчык чорнага колеру. На ўказальным, сярэднім і безыменным пальцах левай рукі ёсць кольцы з белага металу, адно з іх у выглядзе змейкі. У вушах завушніцы ў выглядзе падвесак акругленай формы з белага металу. На нагах басаножкі чорнага колеру з матыльком, калготкі, чорная спадніца ў складкі, сіняя кофта на гузіках, белая сарочка з кароткімі рукавамі, белы бюстгальтар, бардовыя плаўкі. Труп без прыкмет гвалтоўнай смерці.

**Таго, хто можа паведаміць дадатковую інфармацыю, звязаную з асобай нябожчыцы, просім патэлефанаваць у міліцыю 02 па месцы жыхарства, або 54378 у Вілейцы.**



НОВАЕ Ў СУВЯЗІ

# Па-руску гавораць не толькі ў СНД

***МАЛАДЗЕЧНА. Пра сучасныя сервісныя тэлефонныя паслугі расказвае супрацоўнік раённага вузла электрасувязі Ігар ТАЛКАЧОЎ.***

*Пра тыповыя сітуацыі*

Штомесяц некалькі дзесяткаў абанентаў звяртаюцца ў РВЭС для высвятлення ці ўдакладнення пытанняў, звязаных з тэлефоннымі перамовамі. Вось некалькі "стандартных" сітуацый, калі абанент можа сам разабрацца ў сітуацыі.

Да прыкладу, у раздрукоўцы тэлефонных перамоў ёсць 1–хвілінныя размовы, хаця ўладальнік тэлефона дакладна памятае, што, хаця ён і тэлефанаваў па гэтым нумары, але ніхто яму не адказваў. Звычайная прычына – у выклікаемага абанента тэлефон мае вызначальнік нумара, тэлефакс ці мадэм. Усе пералічаныя ўстройствы робяць "аўтападняцце" і выдаюць у лінію свае гудкі, а тэлефонная станцыя фіксуе 1 хвіліну перамоваў.

Вось яшчэ сітуацыя: абанент сцвярджае, што некаторыя міжгароднія тэлефонныя перамовы, зафіксаваныя ў рахунку, ён не рабіў. У працэсе "разбіральніцтва" высвятляецца , што ўсё ж тэлефанаваў, але забыўся; ці рабілі гэта члены яго сям'і, сябры, суседзі. Таму перш чым звяртацца, варта папярэдне высветліць, хто мог карыстацца вашым тэлефонам. Бывае, сын ці дачка тэлефануюць сваім сябрам і па розных прычынах не хочуць, каб бацькі ведалі пра гэта.

Яшчэ тыповая сітуацыя: абанент у сваім рахунку за паслугі сувязі выяўляе буйную суму за перамовы па невядомым яму нумары. Неўзабаве высвятляецца, што належыць ён службе «Секс па тэлефоне», размешчанай у ЗША. Прычына такіх наступстваў – некампетэнтнасць некаторых уладальнікаў тэлефонаў. У прэсе змяшчаюцца тэлефонныя нумары, па якіх можна пагаварыць з уладальніцай прыемнага голаса. Толькі ў рэкламе не ўказваецца, што ваш званок чакаюць за акіянам – хвіліна каштуе 44 тысячы. А паколькі размова ідзе па–руску, то многія ўпэўненыя, што служба размешчана на тэрыторыі нашай краіны ці ў СНД. Асаблівую цікавасць да сексу па тэлефоне маюць падлеткі – пра сямейны бюджэт яны, натуральна, не думаюць. Заўважце: калі ў тэлефонным нумары пасля лічбы "8" ідзе "10", то гэта абазначае, што абанент размешчаны па–за межамі СНД, а тарыф вельмі высокі.

На заканчэнне – абсалютна неардынарны выпадак. У кватэру аднаго з абанентаў атрымалі доступ іншыя людзі. Рэчы яны не выносілі, але бесцырымонна карысталіся чужым тэлефонам. За 2 месяцы нагаварылі кругленькую суму.

Пераважная большасць згаданых "тэлефонных злачынстваў" раскрываецца, дзякуючы сучаснай камп'ютэрнай тэхніцы.

Дарэчы, абаненты новых тэлефонных станцый пры жаданні могуць закрыць выхад на міжнародную тэлефонную сетку, што зробіць немагчымым наталенне цікаўнасці дзяцей–падлеткаў тэлефанаваннямі па невядомых тэлефонах.

***Кантактныя тэлефоны для звароту па пытаннях прадастаўлення паслуг электрасувязі і якасці работы сродкаў сувязі ў Маладзечне – 5-35-86 і 3-01-96 штодзень з 8–00 да 17–00.***

